Народны Камісарыят Асьветы БССР

# ДАВЕДНІК

## ДЛЯ АСОБ ЯКІЯ ПАСТУПАЮЦЬ У ВЫШЭЙШЫЯ І СЯРЭДНІЯ НАВУЧАЛЬНЫЯ ЎСТАНОВЫ БССР







ДЗЯРЖАЎНАЕ ВЫДАВЕЦТВА БЕЛАРУСІ ★ ВУЧПЭДСЭКТАР ★ МЕНСК — 1932

НАРОДНЫ КОМІСАРЫЯТ АСЬВЕТЫ БССР

# ДАВЕДНІК

## ДЛЯ АСОБ, ЯКІЯ ПАСТУПАЮЦЬ У ВЫШЭЙШЫЯ І СЯРЭДНІЯ НАВУЧАЛЬНЫЯ ЎСТАНОВЫ БССР







ДЗЯРЖАЎНАЕ ВЫДАВЕЦТВА БЕЛАРУСІ
ВУЧПЭДСЭКТАР
МЕНСК 1932



## ПРАВІЛЫ ПРЫЁМУ Ў ВНУ і ВТНУ БССР НА 1932—33 НАВУЧАЛЬНЫ ГОД

1. Для правядзеньня прыёму ў ВНУ і ВТНУ ў 1932—33 навуч. годзе пры кожнай ВНУ і ВТНУ організуюцца прыймовыя комісіі (агульныя для ВНУ, або факультэцкія), якія працуюць на падставе асобнага палажэньня.

2. У лік студэнтаў ВНУ і ВТНУ прымаюцца асобы не маладзей ад 17 год.

3. Асобы, якія хочуць наступіць у ВНУ і ВТНУ, падаюць аб гэтым на імя дырэктара ВНУ і ВТНУ заяву з абавязковым паказаньнем факультэту і аддзяленьня ВНУ і ВТНУ, на якім яны жадаюць вучыцца. Да памянёнай заявы далучаюцца наступныя дакуманты:

а) дакумант аб узросьце (мэтрыка);

б) дакумант аб адносінах да вайсковай павіннасьці (для мужчын);

в) дакумант аб асьвеце;

г) дзьве фотографічныя карткі;

д) мэдычнае пасьведчаньне аб стане здароўя паступаючага;

е) дакумант, які сьведчыць аб соцыяльным і матэрыяльным становішчы паступаючага і яго бацькоў;

ж) анкета, завераная адпаведнымі організацыямі і ўстановамі, прычым за няправільныя весткі, даныя ў анкеце, адказваюць, згодна крымінальнаму кодэксу, як асобы, якія далі гэтыя весткі, так і асобы, якія засьведчылі анкету (гл. дадатак № 1).

Увага. Ніякія копіі дакумантаў ня прымаюцца (за выключэньнем дакумантаў аб адносінах да вайсковай павіннасьці).

У выпадку згубы дакуманту павінен быць пададзены дублікат яго.

4. На асоб, якія скончылі рабочыя факультэты, адміністрацыя рабфакаў складае сьпісы, якія з усімі дакумантамі і візай прэзыдыуму адпаведнага рабфаку накіроўваюцца ў адпаведныя ВНУ і ВТНУ, дзе гэтыя асобы мэханічна залічваюцца ў студэнты без колёквіуму.

5. Правам паступленьня бяз спытаў ва ўсе ВНУ і ВТНУ БССР, за выключэньнем тых, якія названы ў п. 7, карыстаюцца асобы, якія скончылі: а) рабфак, б) ФЗВ на базе сямігодкі з двухгадовым тэрмінам навучаньня, в) тэхнікумы і асобы, якія вытрымалі іспыты для паступленьня ў ВНУ і ВТНУ не раней прыёму ўвосень 1931 году.

Правам паступленьня бяз іспытаў у пэдагогічныя інстытуты БССР карыстаюцца апрача таго асобы, якія скончылі двухгадовыя пэдагогічныя курсы.

6. Усе асобы, якія скончылі падрыхтоўчыя ў ВНУ і ВТНУ курсы, карыстаюцца правам паступленьня бяз іспытаў у ВНУ і ВТНУ ў тым выпадку, калі пры сканчэньні курсаў была ўтворана праверка ведаў камісіяй з удзелам прадстаўніка органаў Наркамасьветы, аб чым павінна быць азначана ў пасьведчаньні.

7. Асобы, якія паступаюць у Беларускі дзяржаўны унівэрсытэт, Мэдынстытут, Будаўнічы інстытут, Хіміка-Тэхнолёгічны інстытут, Энэргетычны інстытут, Машына-будаўнічы інстытут і Водна-мэліорацыйны інстытут, павінны трымаць іспыты.

Бяз іспытаў у гэтыя навучальныя ўстановы прымаюцца выключна асобы, якія скончылі рабочыя факультэты пры данай ВНУ і ВТНУ ў 1932 годзе.

8. Іспыты для асоб, паказаных у п. п. 6 і 7, камісіямі з удзелам прадстаўніка ДВС НКА, павінны праводзіцца ў аб'ёме курсу рабфаку з абавязковай падачай пісьмовай працы на белмове і літаратуры і матэматыцы.

9. ВНУ і ВТНУ абавязаны ўсім, хто падаў заявы, даць пісьмовы адказ (ня менш як за 5 дзён да пачатку іспытаў), ці будуць яны дапушчаны да прыймовых іспытаў. У выпадку адмаўленьня ў дапушчэньні да іспытаў у адказе павінна быць паказана прычына недапушчэньня.

10. Іспыты адбываюцца ў тэрміны, вызначаныя кожнай ВНУ і ВТНУ, пачынаючы з 1 верасьня.

11. Пры залічэньні ў студэнты, з ліку вытрымаўшых іспыты перавага аддаецца рабочым і іх дзецям, вайсковым служачым і работнікам міліцыі і іх дзецям, членам колгасаў і іх дзецям, дзецям навуковых працаўнікоў і спэцыялістаў, вясковым пэдагогам і іх дзецям.

Увага 1. Правамі спэцыялістаў карыстаюцца асобы, якія працуюць па сваёй спэцыяльнасьці ў дзяржаўных установах ня менш як 5 год:

а) інжынэры і тэхнікі, якія зьяўляюцца членамі сэкцыі інжынэрна-тэхнічных работнікаў;

б) агрономы, мэліоратары, лесаводы, зямляўпарадкавацелі і вэт. дактары, члены адпаведных сэкцый профсаюзаў;

в) дактары, члены мэдычных сэкцый;
г) вясковыя пэдагогі і політасьветпрацаўнікі.

Увага 2. Ільготы, паказаныя ў гэтым пункце, пашыраюцца выключна на дзяцей асоб пералічаных катэгорый і ня могуць быць прадастаўлены ніякім іншым катэгорыям родзічаў ці ўтрыманцаў гэтых асоб.

12. Для асоб, якія скончылі профшколы, ФЗВучы і тэхнікумы, у выпадку прызыву іх у Чырвоную армію, кожны год службы ў Чырвонай арміі залічваецца за год вытворчай працы.

13. Пераход з факультэту на факультэт і з аднэй вышэйшай навучальнай установы ў другую адбываецца адначасна з прыёмам у ВНУ і павінен быць закончаны да пачатку заняткаў. Пераход можа быць зроблены толькі пры тэй умове, калі адна ВНУ згодна адпусьціць, а другая—прыняць студэнта, які хоча перавесьціся.

14. Асобы, якія залічаны ў студэнты пэўнай ВНУ ці ВТНУ не пачалі вучэньня на працягу 2-х тыдняў бяз уважлівых прычын, выключаюцца са сьпісаў студэнтаў.

15. Асобы, якія павінны прыехаць для паступленьня ў ВНУ ці ВТНУ, ніякай матэрыяльнай дапамогі ад ВНУ і ВТНУ не атрымліваюць, апрача інтэрнату, якім яны забясьпечваюцца па меры магчымасьці. Асобы, звольненыя ад іспытаў, не павінны прыяжджаць зусім да пачатку заняткаў, а атрымліваюць пісьмовае паведамленьне аб сваім залічэньні да 1 верасьня.

16. Пастановы прыймовых комісій маюць моц пасьля зацьвярджэньня іх дырэктарам адпаведнай ВНУ і ВТНУ.

17. На падставе матэрыялаў прыймовых комісій складаецца паіменны сьпіс студэнтаў па факультэтах, аддзяленьнях і курсах. Гэты сьпіс, пасьля зацьвярджэньня дырэктарам, ніякім зьменам да наступнага навучальнага году не падлягае. Не пазьней як 1 кастрычніка справаздачы аб прыёме, складзеныя паводле ўстаноўленых форм, падаюцца ў Наркамасьветы.

## ПРАВІЛЫ ПРЫЁМУ Ў ТЭХНІКУМЫ ЎСІХ ТЫПАЎ І ПЭДАГОГІЧНЫЯ КУРСЫ НА 1932-33 ГОД

1. Прыём у тэхнікумы ўсіх тыпаў і на пэдагогічныя курсы праводзіцца прыймовымі комісіямі, якія організуюцца пры кожным тэхнікуме ці пэдагогічных курсах і працуюць на падставе палажэньня аб іх.

2. Асобы, якія пастпаюць у тэхнікумы ці на пэдагогічныя курсы, падаюць аб гэтым заяву на імя прыймовай комісіі навучальнай установы, паводле свайго выбару. Да заявы далучаюцца наступныя дакуманты:

а) дакумант аб узросьце (мэтрыка);

б) дакумант аб адносінах да вайсковай павіннасьці (для мужчын);

в) дакумант аб асьвеце;

г) дзьве фотографічныя карткі;

д) мэдычнае пасьведчаньне аб стане здароўя паступаючага;

е) дакумант, які сьведчыць аб соцыяльным і матэрыяльным становішчы паступаючага і яго бацькоў;

ж) анкета, завераная профэсыянальнымі або савецкімі організацыямі, прычым за няправільныя весткі, даныя ў анкеце, адказваюць, згодна крымінальнаму кодэксу, як асобы, якія далі гэтыя весткі, так і асобы, якія засьведчылі анкету (гл. дадатак № 1).

Увага. Ніякія копіі дакумантаў ня прымаюцца (за выключэньнем дакумантаў аб адносінах да вайсковай павіннасьці).

У выпадку згубы дакументу, павінен быць пададзены дублікат яго.

3. Узрост паступаючага ў тэхнікумы павінен быць ня ніжэй ад поўных 15 і ня вышэй за 25 год; на пэдагогічныя курсы— ня ніжэй ад 16 і ня вышэй за 40 год.

4. Асобы, якія скончылі поўны курс 9-гадовай працоўнай школы, школы 2-й ступені, двухгадовых агульна-адукацыйных курсаў, 7-гадовай політэхнічнай школы, школы для дарослых павышанага тыпу, школы колгаснай моладзі, профшколы і курсы для падрыхтоўкі ў тэхнікумы, незалежна ад году сканчэньня,

а таксама і вытрымаўшыя іспыты ў 1931—1932 годзе, пры паступленьні ў тэхнікумы зусім звальняюцца ад іспытаў, апрача тэхнікумаў, падпарадкаваных Народным комісарыятам цяжкай прамысловасьці, лёгкай прамысловасьці, шляхоў зносін і Галоўдартрансу, куды прыём робіцца выключна па іспытах у аб'ёме 7-гадовай школы.

Увага. Асобы, якія скончылі падрыхтоўчыя ў тэхнікумы курсы (з ліку тых тэхнікумаў, якія маюць права прыёму бяз іспытаў), прымаюцца бяз іспытаў у тым выпадку, калі ў выпусках іх з курсаў прымалі ўдзел прадстаўнікі Наркамасьветы, аб чым павінна быць адзначана ў пасьведчаньні аб сканчэньні курсаў.

5. Пры залічэньні ў тэхнікумы і на курсы з ліку вытрымаўшых іспыты перавага аддаецца рабочым і іх дзецям, вайсковым служачым і работнікам міліцыі і іх дзецям, членам колгасаў і іх дзецям, дзецям навуковых працаўнікоў і спэцыялістаў, вясковым пэдагогам і іх дзецям.

Увага 1. Правамі спэцыялістаў карыстаюцца асобы, якія працуюць па сваёй спэцыяльнасьці ў дзяржаўных установах ня менш як 5 год:

а) інжынэры і тэхнікі, якія зьяўляюцца членамі сэкцыі інжынэрна-тэхнічных работнікаў;

б) агрономы, мэліоратары, лесаводы, зямляўпарадкавацелі і вэт. дактары, члены адпаведных сэкцый профсаюзаў;

в) дактары, члены мэдычных сэкцый;

г) вясковыя пэдагогі і політасьветпрацаўнікі.

Увага 2. Ільготы, паказаныя ў гэтым пункце, пашыраюцца выключна на дзяцей асоб пералічаных катэгорый і ня могуць быць прадстаўлены ніякім іншым катэгорыям родзічаў ці ўтрыманцаў гэтых асоб.

6. Асобы, як з ліку звольненых ад іспытаў, так і з ліку трымаўшых іспыты і прызнаных падрыхтаванымі для паступленьня ў даную навучальную ўстанову, прымаюцца ў лік слухачоў на падставе социяльнага адбору.

7. Пастановы прыймовых комісій тэхнікумаў і пэдагогічных курсаў зацьвярджаюцца дырэктарам ці загадчыкам адпаведнай установы і лічацца канчатковымі.

8. Асобы, якія прыняты ў тэхнікумы і на пэдагогічныя курсы і не пачалі заняткаў бяз уважлівых прычын на працягу 2-х тыдняў, выключаюцца за сьпісаў вучняў.

9. Асобы, якія павінны прыехаць для паступленьня ў тэхнікумы і на пэдкурсы, ніякай матэрыяльнай дапамогі ад памянёных установ не атрымліваюць. Асобы, звольненыя ад іспытаў, не павінны прыяжджаць зусім да пачатку заняткаў, а атрымліваюць пісьмовае паведамленьне аб сваім залічэньні.

---

## ПРАВІЛЫ ПРЫЁМУ Ў РАБОЧЫЯ ФАКУЛЬТЭТЫ БССР НА 1932—33 НАВУЧ. ГОД

1. Прыём на рабфакі праводзіцца комісіямі, якія організуюцца пры кожным рабфаку.

2. Асобы, якія паступаюць на рабфак, падаюць заявы ў прыймовую комісію таго рабфаку, куды яны командыраваны. Да заяў далучаюцца наступныя дакуманты:

а) командыровачнае пасьведчаньне адпаведнай організацыі (гл. дадатак № 2).

б) пасьведчаньне аб стажы фізычнай працы;

в) дакумант аб узросьце (мэтрыка);

г) дакумант аб адносінах да вайсковай павіннасьці (для мужчын);

д) дакумант аб асьвеце;

е) мэдычнае пасьведчаньне аб стане здароўя паступаючага;

ж) дакумант, які сьведчыць аб соцыяльным і матэрыяльным становішчы паступаючага і яго бацькоў;

з) анкета, завераная профэсіянальнымі або савецкімі організацыямі і ўстановамі, пры чым за няправільныя весткі, даныя ў анкеце, адказваюць, згодна крымінальнаму кодэксу, як асобы, якія далі гэтыя весткі, так і асобы, якія засьведчылі анкету (гл. дадатак № 1).

Увага. Ніякія копіі дакумантаў ня прымаюцца (за выключэньнем дакумантаў аб адносінах да вайсковай павіннасьці).

У выпадку згубы дакуманту павінен быць паданы дублікат яго.

3. На рабочыя факультэты прымаюцца асобы не маладзей ад 17 і не старэй за 30 год:

а) асобы, якія належаць паводле свайго пахаджэньня да рабочых і працавалі ў якасьці рабочых фізычнай працы ў прамысловасьці, транспорце або сельскай гаспадарцы ня менш як 3 гады;

б) колгасьнікі, якія прапрацавалі ня менш як 3 гады у сельскай гаспадарцы, сяляне-бедняки і серадняки з тым-жа стажам працы.

Увага 1. Для членаў КП(б) і КСМ дапускаецца паніжэньне стажу фізычнай працы да 2-х год.

Увага 2. Рабочым і сялянам, якія часова парвалі сувязь з вытворчасьцю з прычыны прызыву іх у Чырвоную армію, служба ў апошняй залічваецца як стаж фізычнай працы.

4. Усе асобы, якія паступаюць на рабфак, трымаюць праверачныя іспыты па арытмэтыцы, баларускай (а на яўрэйскім і польскім аддзяленьнях—яўрэйскай і польскай) мовах у аб'ёме поўнага курсу 4-х груп сямігадовай працоўнай школы і па політграмаце.

5. Пастановы прыймовай комісіі рабфаку, зацьверджаныя дэканам, лічацца канчатковымі.

6. Командыроўкі на рабфак членам профсаюзаў даюцца адпаведным гарадзкім ці раённым профсаветам, членам колгасаў—адпаведнымі Райколгассаюзамі на месцы пражываньня асоб, якія паступаюць. Асобы, якія належаць да працоўнага сялянства, атрымліваюць командыроўкі ад гарадзкіх і раённых аддзелаў народнай асьветы.

Увага. Асобы, якія павінны прыехаць для паступленьня на рабфак, ніякай матэрыяльнай дапамогай забясьпечвацца ня будуць.

7. Асобы, якія скончылі профшколы, школы ФЗВ і вячэрнія школы рабочай моладзі, маюць права паступіць на 2 і 3 курс рабфаку.

Увага 1. Паступаючыя на 2 і 3 курс рабфаку праходзяць праверачныя іспыты ў аб'ёме 1-га ці 1 і 2-га курсу рабфаку.

Увага 2. Для асоб, якія скончылі профшколы і школы ФЗВ, вучэньне ў школах залічваецца як стаж фізычнай працы.

8. На вячэрнія рабфакі прымаюцца выключна рабочыя колгасьнікі.

9. Асобы, якія командыруюцца ў вячэрнія рабфакі, вылучаюцца адпаведнымі профсаюзамі і колгаснымі організацыямі.

Да командыроўкі павінны быць далучаны ўсе тыя дакумэнты, як і пры паступленьні ў ранішнія рабфакі.

Увага. Прыём на вячэрнія рабфакі адбываецца на ўсе курсы шляхам праверкі ведаў паступаючых, якія, паводле аб'ёму выяўленых ведаў, прымаюцца на адпаведны курс.

## ПАЛАЖЭНЬНЕ АБ ПРЫЙМОВЫХ КОМІСІЯХ ПРЫ ВНУ, РАБФАКАХ і ТЭХНІКУМАХ

1. Для правядзеньня прыёму пры кожнай ВНУ, рабфаку і тэхнікуме организуюцца прыймовыя комісіі, склад якіх зацьвярджаецца адпаведным наркоматам, якому падпарадкавана даная навучальная ўстанова. Пры тых ВНУ, дзе існуе факультэцкая сыстэма, комісіі ўтвараюцца пры факультэтах. Склад комісіі наступны:

1. кіраўнік установы,
2. яго намесьнік (загадчык навучальнай часткі),
3. прадстаўнік НКА або гарадзкога ці раённага АНА,
4. прадстаунік гарадзкога ці раённага профсавету,
5. прадстаўнік студорганізацыі данай установы.

2. Да абавязкаў прыймовых комісій належыць:

а) разгляд заяў аб залічэньні і вызначэньне асоб, якія ня могуць быць дапушчаны да іспытаў, як не адпавядаючыя правілам прыёму;

б) вызначэньне асоб, якія прымаюцца бяз іспытаў;

в) складаньне сьпісаў асоб, дапушчаных да іспытаў;

г) организацыя іспытаў і іспытных комісій, нагляд за іх працай і зацьвярджэньне іх пастаноў;

д) складаньне сьпісу асоб, залічаных у студэнты з ліку вытрымаўшых іспыты;

е) складаньне справаздачы аб прыёме і перадача дырэктару ВНУ, тэхнікуму ці рабфаку ўсіх скарг на працу комісіі з далучэньнем тлумачэньняў да гэтых скарг.

3. Усе матэрыялы аб выніках працы прыймовых комісій разам са скаргамі, якія паступаюць (скаргі падаюцца праз прыймовую комісію), перадаюцца на разгляд дырэктара ВНУ, рабфаку і тэхнікуму.

4. Пасьля зацьверджаньня дырэктарам працы прыймовых комісій апошнія ліквідуюцца. Справы аб залічаных студэнтах і дакуманты няпрынятых перадаюцца ў сакратарыят на студэнцкіх справах, а пратаколы комісій—у праўленьне ВНУ, рабфаку і тэхнікуму.

---

*Дадатак № 1.*

# АНКЕТА
## для наступаючых у ВНУ, рабфакі, тэхнікумы і на курсы:

1. Прозьвішча, імя і па бацьку . . . . . . . . . . . . . . .
2. Пол (муж., жан.) . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . .
3. Год нараджэньня і дзе нарадзіўся . . . . . . . . . . . . .
4. Нацыянальнасьць . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . .
5. Які раз падае заяву ў навучальную ўстанову . . . . . . . .
6. Профэсія ці спэцыяльнасьць . . . . . . . . . . . . . . . .
7. Колькі гадоў, месяцаў, у якасьці каго і ў якой вытворчасьці працуе: . .
. . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . .
   а) да Кастрычніцкай рэволюцыі . . . . . . . . . . . . . .
   . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . .
   б) пасьля Кастрычніцкай рэволюцыі . . . . . . . . . . . .
   . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . .
   в) У сучасны момант . . . . . . . . . . . . . . . . . . .
   г) Зарплата, якую вы атрымліваеце . . . . . . . . . . . .
   д) Калі зьяўляецеся членам прафсаюзу, то якога, з якога тэрміну, № членскай кніжкі. . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . .
   е) Калі член колгасу, то ў якой мясцовасьці (назва колгасу), з якога году знаходзіцеся ў колгасе . . . . . . . . . . . . . . . .
8. Дзе, у якой установе, у якасьці каго працавалі вашы бацькі:
   а) да Кастрычніцкай рэволюцыі . . . . . . . . . . . . . .
   б) пасьля Кастрычніцкай рэволюцыі . . . . . . . . . . . .
   в) у сучасны момант. . . . . . . . . . . . . . . . . . . .
   г) Зарплата, якую яны атрымліваюць . . . . . . . . . . . .
   д) Калі бацькі зьяўляюцца членамі профсаюзу, то якога, з якога тэрміну № членскай кніжкі . . . . . . . . . . . . . . . . . . . .
   . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . .
   е) Калі яны члены колгасу, то якога, у якой мясцовасьці і з якога году
   . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . .

Увага. Па п. п. 7 і 8 трэба пералічыць у хронолёгічным парадку працы, як ая выконвалася вамі і вашымі бацькамі.

9. Калі бацька селянін не колгасьнік або саматужнік, то колькі мае зямлі, жывёлы, які лік членаў сям'і і колькі плаціць падатку . . . . . . . .

10. Вашы адносіны да вайсковай павіннасьці (толькі для мужчын) . . . .
. . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . .

11. Ці служылі вы ў Чырвонай арміі, які час, якую пасаду займалі і ці прымалі ўдзел у грамадзянскай вайне? . . . . . . . . . . . .
. . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . .

12. Ці служылі вы ў старой арміі і ў якасьці каго? . . . . . . . .

13. Ці служылі вы ў белай арміі і ў якасьці каго? . . . . . . . .

14. Ваш грамадзкі стаж (праца па выбарах у савеце, коопэратывах, профсаюзах і ў якасьці каго) . . . . . . . . . . . . . . . . . . . .

15. Ваша адукацыя агульная і спэцыяльная, колькі клясаў скончылі, якой школы
. . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . .

16. У якіх палітычных партыях былі раней . . . . . . . .

17. Партыйнасьць цяпер, з якога году, № парт. білета . . . . . . .
. . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . .

18. Калі вы не працуеце, то на якія сродкі жывеце . . . . . . .
. . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . .

19. Адрас вашых бацькоў . . . . . . . . . . . . . . . . . . .

20. Ваш адрас. . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . .

Подпіс асобы, якая запаўняе анкету. . . . . . . . . .

У гэтым сьведчым {

Подпіс адказнага кіраўніка ўстановы (абавязкова падрабязна ўказваецца пасада і прозьвішча).

За няправільныя весткі, даныя ў анкеце, прыцягваюцца да адказнасьці як асобы, якія запоўнілі анкету, так і асобы, якія яе засьведчылі.

*Дадатак № 2*

(Штамп)

## КОМАНДЫРОЎКА № . . . .

Дана гэта гр. . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . .
у тым, што ён (яна) . . . . . . командыруецца ў . . . . . . . . . .
. . . . . . . . . . . . . . . . рабфак

Командыроўка выдадзена . . . . . . . . . . . . . . .
(Назва командыруючай арганізацыі)

М. П.

*Дадатак № 3.*

## СЬПІС ХВАРОБ І ДЭФЭКТАЎ ЦЕЛА, ЯКІЯ ПЕРАШКАДЖАЮЦЬ ПРЫЁМУ Ў ВНУ, ТЭХНІКУМЫ, РАБФАКІ І НА КУРСЫ

1. Сталае і выразнае агульнае высіленьне, а таксама выразнае функцыянальнае расстройства ў выніку недаразьвіцьця цела ды інш. прычыны. (Cachexia infantil. m.

2. Белакроўе ў выразнай форме (Leucaemia).

3. Цукровая хвароба (Diabetis mell).

4. Хронічная малярыя з малакроўем і павялічэньнем мясцовых органаў (Malaria chron).

5. Вэнэрычныя хваробы ў заразьлівай стадіі (Gonorrhea, acuta, Lues I і II).

6. Праказа, склерома, ваўчанка ды іншыя формы тубэркулёзу скуры (Zepra, hinoscleroma, lupus).

7. Злаякасныя пухліны і нарасты (Tumor malignus).

8. Хронічнае разьмякчэньне касьцей са сьвішчамі. Тубэркулёз касьцей, суставаў і хрыбетніцы (Osteomyelitis chron. Arthritis tuber.).

9. Хваробы лёгкіх, тубэркулёз лёгкіх у выпадку выразных клінічных зьяваў і станоўчых вынікаў бактэрыолёгічнага дасьледваньня (Tbc. pulmonar).

10. Хваробы органаў крывяабароту: органічны парок сэрца са зьявамі расстройства компэнсацыі: анэўрызмы буйных судзін (Vitia cordis decompensata, aneurismata).

11. Хваробы печаней: цяжкія формы цырозаў, каменная хвароба жоўцевых ходаў з частымі прыступамі (Cirrhosis hepatis. Cholelethiasis).

12. Дэфэкты ў разьвіцьці мачавых органаў, зьвязаных з функцыяй трыманьня мачы Incontinentia urinae).

13. Хваробы нырак: хронічнае ўспаленьне нырак з парушэньнем функцый (урэмічныя зьявы нават у самой лёгкай форме—Nephritis chron.)

14. Глухата і значнае недачуваньне на абодва вухі.

15. Хронічнае гнойнае ўспаленьне сярэдняга вуха з абодвух бакоў (Otitis media purul. bilateralis).

16. Озэна—(Ozaena—сьмярдзючы насмарк)

17. Хронічнае ўспаленьне горла (Laryngitis chron.). Заіканьне.

18. Хваробы вачэй: а) трахома са ўсімі вынікамі, як, напр., выварат павек ды інш., б) парушэньне адчуваньня колераў (дальтонізм); в) сталае парушэньне празрыстасьці важкіх асяродзяў вока з паніжэньнем якасьці зроку ніжэй за 0,2 (Trachoma).

19. Ідыётызм і псыхічная захворваньні ва ўсіх ступенях і відах.

20. Падучка (Epilepsia).

21. Цяжкія формы гістэрыі і нэўрозаў.

22. Выразныя праяўленьні Базэдавай хваробы (вальлё).

23. Хронічнае выразнае захворваньне жаночых палавых органаў з частымі абвастрэньнямі (Endometritis chron.).

24. Хваробы скуры: 1) заразьлівыя—да выхварэньня: а) пархатнасьць, б) розныя формы стрыгучага лішаю галавы, цела ды інш., 2) незаразьлівыя хваробы скуры, калі яны ахопліваюць адкрытыя часьці цела або займаюць значную частку скуры.

25. Сударгі агульнага характару, якія ўпарта і часта паўтараюцца.

---

# СЬПІС

## ВНУ, ВТНУ, тэхнікумаў і рабфакаў БССР

### I. ВЫШЭЙШЫЯ НАВУЧАЛЬНЫЯ ЎСТАНОВЫ

**Наркамасьветы:**

| | | | | |
|---|---|---|---|---|
| 1. | БДУ дзенны | | | Менск |
| 2. | „ вячэрні | | | „ |
| 3. | Вышэйшы пэд. | інстытут | дзенны | „ |
| 4. | „ | „ | вячэрні | „ |
| 5. | Магілеўскі пэд. | інстытут | дзенны | Магілеў |
| 6. | „ | „ | вячэрні | „ |
| 7. | Гомельскі | „ | дзенны | Гомель |
| 8. | „ | „ | вячэрні | „ |
| 9. | Аршанскі | „ | дзенны | Ворша |
| 10. | „ | „ | вячэрні | „ |
| 11. | Магілеўскі п/асьветны інстытут | | дзенны | Магілеў |
| 12. | „ | | вячэрні | „ |
| 13. | Комвуз | | дзенны | Менск |
| 14. | „ | | вячэрні | „ |
| 15. | Інстытут падвышэньня кваліфікацыі | | | „ |
| 16. | Консэрваторыя | | | „ |
| 17. | Опэрная студыя | | | „ |

**Наркомцяжпрому:**

| | | |
|---|---|---|
| 18. | Інстытут будаўнічы | Менск |
| 19. | „ мэханіка-машынабудаўнічы | Гомель |
| 20. | „ энэргетычны | Менск |
| 21. | „ хіміка-тэхнолёгічны | „ |
| 22. | „ тарфяны | „ |
| 23. | Курсы чырвоных дырэктароў | „ |

**Наркомснабу:**

24. Інстытут харчовай прамысловасьці — Менск

**Наркомкамгасу:**

25. Інстытут комунальнай гаспадаркі — Менск

**Беллеспрому:**

26. Інстытут леса-хімічны — Гомель

Наркомзему:

| | | |
|---|---|---|
| 27. | Інстытут мэліорацыі і зямляўнарадкаваньня | Горкі |
| 28. | „ брадзільных культур | „ |
| 29. | „ буйнай рагатай жывёлы | „ |
| 30. | „ кармоў і агро-хіміі | „ |
| 31. | „ садова-гародн . | Менск |
| 32. | „ бульбяны | Чырвоны-Бераг |

Сьвінаводтрэсту:

| | | |
|---|---|---|
| 33. | Інстытут вэтэрынарны | Віцебск |
| 34. | „ сьвінаводзтва | „ |

Галоўдартрансу:

35. Інстытут аўтодарожны — Менск

Дзяржпляну:

36. Інстытут плянава-экономічны — Менск

ЦВК:

37. Інстытут Саўбудаўніцтва — Менск

Наркомфіну:

| | | |
|---|---|---|
| 38. | Інстытут фінансава-экономічны | Менск |
| 39. | Вышэйшыя фінкурсы | „ |

НК. Ах. Здароўя:

40. Інстытут мэдычны — Менск

Белкоопсаюзу:

41. Інстытут спажывецкай коопэрацыі — Менск

## II. РАБФАКІ

Наркомасьветы:

| | | |
|---|---|---|
| 1. | Менскі дзенны пры ВПІ | Менск |
| 2. | „ вячэрні „ | „ |
| 3. | Віцебскі дзенны пры пэд. інстытуце | Віцебск |
| 4. | „ вячэрні „ „ | „ |
| 5. | Магілеўскі дзенны пры пэд. інстытуце | Магілеў |
| 6. | „ вячэрні „ „ | „ |
| 7. | Бабруйскі дзенны, прымацаваны да ВПІ | Бабруйск |
| 8. | „ вячэрні „ „ | „ |
| 9. | Гомельскі дзенны, прымацаваны да Гомельскага пэд. інстытуту | Гомель |
| 10. | Койданаўскі дзенны | Койданава |
| 11. | Сьвіслацкі дзенны | Сьвіслачы |
| 12. | Рэчыцкі вячэрні, прымац. да Гомельскага пэд. інстытуту | Рэчыца |
| 13. | Дубровенскі вячэрні, прымацаваны да ВПІ | Дуброўна |
| 14. | Крычаўскі вячэрні, прымацаваны да Магілеўскага пэд. інстытуту | Крычаў |
| 15. | Чашніцкі вячэрні, прымацаваны да Віцебскага пэд. інстытуту | Чашнікі |
| 16. | Барысаўскі вячэрні „ „ „ „ | Барысаў |
| 17. | Глускі вячэрні „ „ „ „ | Глуск |

### Наркомцяжпрому:

| | | |
|---|---|---|
| 18. | Рабфак пры будаўнічым інстытуце | Менск |
| 19. | Жлобінскі рабфак, прымац. да буд. інстытуту | Жлобін |
| 20. | Рабфак тарфяны пры Торфінстытуце | Менск |
| 21. | Магілеўскі рабфак, прымац. да Менск. торфінстытуту | Магілеў |
| 22. | Рабфак пры мэханічным інстытуце дзенны | Гомель |
| 23. | Рабфак пры „ вячэрні | „ |
| 24. | Аршанскі рабфак, прымац. да энэрг. ін-ту | Ворша |
| 25. | Віцебскі рабфак, прымац. да энэрг. ін-ту | Віцебск |
| 26. | Рабфак пры хіміка-тэхнолёгічным ін-це | Менск |
| 27. | Барысаўскі рабфак пры хіміка-тэхнолёгічным ін-це | Барысаў |
| 28. | Добрускі рабфак, прымац. да хіміка-тэхн. ін-ту | Добруш |

### Наркомпрамгасу:

| | | |
|---|---|---|
| 29. | Рабфак комунальнай гаспадаркі | Менск |

### Наркомзему:

| | | |
|---|---|---|
| 30. | Рабфак дзенны пры ін-це кармоў | Горкі |
| 31. | Рабфак, прымацаваны да ін-ту буйнай раг. жывёлы | Ворша |
| 32. | Мазырскі рабфак, прымац. да ін-ту мэліорацыі | Мазыр |
| 33. | Полацкі рабфак „ „ сад.-гародн. | Полацк |
| 34. | Рабфак кармоў, вячэрні | Горкі |
| 35. | „ буйнай рагатай жывёлы, вячэрні | Ворша |
| 36. | „ мэліорацыі, вячэрні | Мазыр |
| 37. | „ буйнай рагатай жывёлы | Клімавічы |
| 38. | „ кармоў пры саўгасе імя Леніна | Саўгас імя Леніна |
| 39. | „ брадзільных культур | Ліозна |
| 40. | „ брадзільных культур | Боркавічы |
| 41. | „ садова-гародні | Полацк |
| 42. | „ „ | Лошыца |
| 43. | „ „ | Дукоры |

### Галоўдартрансу:

| | | |
|---|---|---|
| 44. | Рабфак пры аўтодарожным інстытуце | Менск |

### Трактарацэнтру:

| | | |
|---|---|---|
| 45. | Вячэрні рабфак | Церахаўка |

### Беллеспрому:

| | | |
|---|---|---|
| 46. | Рабфак пры Гомельскім леса-хімічным ін-це | Гомель |

### НК. Ах. Здароўя:

| | | |
|---|---|---|
| 47. | Рабфак вячэрні | Менск |
| 48. | „ дзенны | Барысаў |

### Дзяржпляну:

| | | |
|---|---|---|
| 49. | Рабфак пры плянава-экономічным ін-це | Менск |

### Наркомфіну:

| | | |
|---|---|---|
| 50. | Рабфак пры фінансава-экономічным ін-це | Менск |

### Белкіраўніцтва сувязі:

| | | |
|---|---|---|
| 51. | Рабфак сувязі | Менск |

## III. ТЭХНІКУМЫ

### Наркомасьветы:

| | | |
|---|---|---|
| 1. Менскі | пэдтэхнікум | беларускі |
| 2. „ | „ | яўрэйскі |
| 3. „ | „ | польскі |
| 4. Віцебскі | „ | беларускі |
| 5. „ | „ | яўрэйскі |
| 6. Магілеўскі | „ | беларускі |
| 7. Рагачэўскі | „ | „ |
| 8. Барысаўскі | „ | „ |
| 9. Полацкі | „ | „ |
| 10. Мсьціслаўскі | „ | „ |
| 11. Мазырскі | „ | „ |
| 12. Аршанскі | „ | „ |
| 13. Слуцкі | „ | „ |
| 14. Гомельскі | „ | „ |
| 15. Лепельскі | „ | „ |
| 16. Рэчыцкі | „ | „ |
| 17. Бабчынскі | „ | „ |
| 18. Бабруйскі | дашкольны | беларускі |
| 19. Полацкі | „ | „ |
| 20. Высачанскі | „ | „ |
| 21. Крычаўскі | „ | „ |
| 22. Койданаўскі | „ | польскі |
| 23. Рагачэўскі | „ | беларускі |
| 24. Магілеўскі | палітасьветны | дзенны |
| 25. „ | „ | вячэрні |
| 26. Дрысенскі | „ | дзенны |
| 27. Магілеўскі | бібліотэчны | дзенны |
| 28. Менскі | газэтны | дзенны |
| 29. „ | „ | вячэрні |
| 30. Віцебскі | мастацкі | |
| 31. Менскі | музычны | |
| 32. „ | сцэнічны | |
| 33. Гомельскі | музычны | |

### Наркомцяжпрому:

| | | |
|---|---|---|
| 34. Энэргетычны | дзенны | Віцебск |
| 35. „ | вячэрні | „ |
| 36. Мэханічны | дзенны | „ |
| 37. „ | вячэрні | „ |
| 38. Архітэктурна-будаўнічы | дзенны | Менск |
| 39. „ „ | вячэрні | „ |
| 40. Хіміка-тэхнолёгічны | | „ |
| 41. Будаўнічы | | Магілеў |
| 42. Тэкстыльны | дзенны | Віцебск |
| 43. „ | вячэрні | „ |
| 44. Швэйны | дзенны | „ |
| 45. „ | вячэрні | „ |
| 46. Запалкавы | дзенны | Барысаў |
| 47. „ | вячэрні | „ |
| 48. Індустрыяльны | | Гомель |
| 49. Індустрыяльна-коопэрацыйны і мясц. прам. | | „ |
| 50. Тарфяны | | Менск |



### Наркомснабу:

| | |
|---|---|
| 51. Тэхналёгічны | Менск |
| 52. Рахункаводны | „ |
| 53. Дзяржгандлю | „ |
| 54. Рыбны | Жыткавічы |
| 55. Мясны | Ворша |

### Наркомкомгасу:

| | |
|---|---|
| 56. Комунальнай гаспадаркі | Менск |
| 57. „ „ | Магілеў |

### Беллеспрому:

| | |
|---|---|
| 58. Леса-тэхнічны | Бабруйск |

### Колгасцэнтру:

| | |
|---|---|
| 59. Архітэктурна-будаўнічы | Менск |
| 60. Буйнай рагатай жывёлы | Брагін |
| 61. „ | Сьмілавічы |
| 62. Вэтэрынарны | Росна |
| 63. „ | Круглае |
| 64. Сьвінаводны | Дрыбін |
| 65. „ | Чачэрск |
| 66. Ільнаводны | Лужаснае |
| 67. Рахункаводны | Мсьціслаў |

### Наркомзему:

| | |
|---|---|
| 68. Гідро-тэхнічны | Менск |
| 69. Топографічны | Магілеў |
| 70. Лугавы | Скрыгалава |
| 71. Глебазнаўчы | Коханава |
| 72. Пчалаводны | Клімавічы |
| 73. Кармавых культур | Полацк |
| 74. С/г. польскі | Койданава |

### Сьвінаводтрэсту:

| | |
|---|---|
| 75. Сьвінаводны | Старобін |
| 76. „ | Стара-Барысаў |

### АБШ:

| | |
|---|---|
| 77. Тэхнікум барацьбы са шкоднікамі с. г. | Віцебск |

### Трактарацэнтру:

| | |
|---|---|
| 78. Машына-трактарны | Гарадок |

### Белсельбуду:

| | |
|---|---|
| 79. Будаўнічы | Полацк |

### С.-г. рэспубліканскіх трэстаў:

| | |
|---|---|
| 80—89. Тэхнікумы: а) Птушка-трусаводныя | Прапойск і Прудоўск |
| б) малочна-прамысловыя | Белічы, Чырвоны Бераг, Уваравічы, Чэрвень |
| в) садова-гароднія | Мар'іна-Горскі, Падбярэскі (яўр.) |
| г) насеннаводныя | Смалявічы і Тураў. |

## Цэнтральныя школы Колгасцэнтру:

90. Цэнтральная колгасная школа — Копысь
91. Рахункаводная школа — Мсьціслаў

## Нарком. ах. здароўя:

92. Менскі мэдтэхнікум
93. Віцебскі „
94. Магілеўскі „
95. Бабруйскі „
96. Гомельскі „

## ЦВК:

97. Фізкультурны — Менск

## Наркомфіну:

98. Менскі фінансавы
99. Гомельскі „
100. Віцебскі „

## Дзяржпляну:

101. Плянава-статыстычны — Менск

## Белкоопсаюзу:

102. Віцебскі коопэрацыйны
103. Гомельскі грамадзкага харчаваньня
104. Менскі сельскагаспадарчы

## Белкіраўніцтва сувязі:

105. Тэхнікум сувязі — Менск

## Белдзяржкіно:

106. Кіно-тэхнікум — Віцебск

## Саюзтрансу:

107. Менскі транспортна-экономічны тэхнікум

## Галоўдартрансу:

108. Менскі аўтодарожны
109. Гомельскі „
110. Магілеўскі „

